# УРАЧЫСТАСЬЦЬ У САДЗЕ

**Я. ЮХНАВЕЦ**

## ДЗЕЯ 1-Я

### Самук і Яніна

САМУК (пазірае на ручны гадзіньнік) Ужо час быць ёй тут. Яна прасіла пабачыцца з Уладзімерам а гэтай гадзіне. (падыходзіць да вакна; за вакном сонячны, летні дзень) Яніна, усё, што ты гаварыла мне, згаджаюся з табой, бо кажаш праўду, самую сапраўдную праўду... Але ўхінуцца кахаць цябе мне таксама ня лёгка... Маё жыцьцё йдзе торнай дарогай. Нават і гэтая цялесная прыць мусіць здабывацца цярпеньнем, злосьцяй, і блізу крывёй...

ЯНІНА (урыўна). Хадзем адгэтуль, забудземся на яе. (цалуе Самука)... Калісьці там, камандуючы намі, ты прывучаў нас не праймацца сілай ворагавай, і перамога прыйдзе тады, калі не ад вырашэньня, дык можа ад наканаваньня. (шчыльней да яго, ня моцным гутарам). А ўсёткі ты не разумееш мяне. Мне фармальнасьці шлюбныя не патрэбны, нам абаім не па 18 год, мы аджылі юнацкую нясьмеласьць каханьня. Абое-ж ведаем, што ў нашых сэрцах больш чагосьці іншага, чымсьці жарсьці маладосьці. Мы абое хочам быць даражонымі сябрамі жыцьця, каб памятаць пакуль жывём, што мы жылі й пережылі ўсё добрае й благое ў жыцьці...

САМУК (міла ўсьміхнуўшыся; таксама ня моцным гуторам) Ах, ты скаберніца! Хоча, каб родзічы на магіле ейнай сьвечкі палілі, і каб суседзі патухнуць не давалі!

ЯНІНА Мы свае самі паставім! (ашчапіўшы Самука). Даражоны мой, мы людзі, ня дай Бог, гэтага слова: прызвычайліся самім сабе напамінаць, што людзьмі ёсьціка. (адступіўшыся; з позіркам у глыбіню залі). Я жанчына не горшая за яе, таксама чагосьці ад жыцьця дамагалася й дамаглася. Калі была вучаніцай яшчэ, мне заўсёды думалося: я зусім старая, а вось цяпер, калі 45 год заўтра стане, ня думаю, або уяўляю сябе старой, а маладой вучаніцай, з ахапкам кніжак пад рукой вяртаюся з школы... (падумаўшы). Даражоны Мой! Я кахаю цябе! Ты можа-ш мець ад мяне ўсё што мужчына жадае...

САМУК (бадай бяз уважліва да ейнай гутаркі). Не бачыўся з ёй блізу ад часу скачэньня вайны.. Ты кажаш, што яна папаўнела, зрабілася на выгляд даўцетнай, і быццам, ці не далікатнай. (махнуўшы рукой). Даруй, Яніна, я зноў уторваю ня мужчынскія словы!

ЯНІНА (пошчакна па шчацэ). Я шмат памагла табе. Бяз мяне, напэўна, памятаеш, ня ведаў як радыё-тэлеграмы слаць.

САМУК Яня, ты хочаш зласаць мяне, ці памагчы мне пережыць маё роднае?

ЯНІНА (сядае на крэсла). Набярыся харобрасьці, цярпеньня, і тады пережывеш і гэтую турботу.

САМУК Я чуў парады твае, але яны... яны шмат не парадзяць мне... (нарсьціва). Я-ж выгадаваў яго! Я турботай пра яго, выказаў, што ёсьць я, й што жыве ён.

ЯНІНА Ці-ж я адбіраю? Ці я прыклікаю ненавідзіць яго? Не! Я толькі сказала ўжо што пара ацурацца яе, забыцца пра жанчыну якая не жадае ведаць цябе... Ах не, гэта твая справа! (паўза)... я з аднае вёскі з табой. Ты памятаеш: на Купальле ў мае валасы камок дзядоў укруціў? Вось ад тае Купальскае начы я й пакахала цябе. І цяпер, хоць памяць вялікая хлусьня для радасьці, помню: ты ахамянуўся сваёй дурнасьцяй, пачаў памагаць выбіраць з маіх валасоў дзяды; рукі твае краналіся маёй галавы, і часам аблічча... мне люба было. Я успамінаю цябе гэткім чароўным і мілым і па сяняшні дзень...

САМУК (урыўна). Яніна, няўпяршыню слухаю твае ўспаміны... (паказвае на сьцяну). Але там за сьцяной даражоная. (падыходзіць да глухой сьцяны на лева). Ня чуваць. Хадзем у сад. (спыняецца каля дзьвярэй).

ЯНІНА Хадзем... Хто перашкаджае табе: я, ці яна?

САМУК Хадзем адгэтуль.
Хадзем. Я ведаю ў садзе скратныя месцы, каб у вакно сынавага пакою паглядзець... Я магу на клён узьлезьці, з густых суччаў назіраць... Ах мой, Уладзімер! Як добра што з гэтым імём жывеш!.. Яніна, няўжо ён не падобны да мяне?.. Не адказвай. Адны і тые падозраньні... Хадзем адгэтуль. (досіць мацнавата). Не-е!

ЯНІНА А я думаю лепш выйдзем у сад. І не хавайся на клёне, ці за клёнам, а-а... за мной. (выходзіць шпарка першай, за ёй Самук)

## ДЗЕЯ 2-Я

*Сад. У воддалі, з лева віднеіцца возера і лес. Летні час. Трэцяя гадзіна папоўдні.*

САМУК (сядае каля стала. На стале шашачная дошка, і ў бязпарадку даміно). Я тут нарадзіўся, я тут падрастаў. Там, на паўдзённым скраю саду, калісьці стаялі пчаліныя карані. Рой выйдзе, дзед і бацька працу маюць: бегаюць, дымяць каля рою, прыкладаюць вохкую гліну да ўжаліных месц. Часта і мяне пчолы кусалі. (паўза). Ах, шмат што ёсьць успамінаць! Ледзь-ледзь, чалавек пачынае старэць, успаміны з мінулага, хацяне-хаця, бы ўраджай пасьпелы, убірай.

ЯНІНА (сядае наўсупраць, на калодцы). А мне мінулае толькі будучым ясьвіцца.

САМУК Як каму – цяжка сказаць. Мінулае жыцьцё заўсёды добрае, хоць і суровае было, але будачыня, будачае таксама будзе мінулым. Шмат скратнага, падкупнага ў думках і наўмерах было ў тых, хто жыў раней нас.

ЯНІНА Ты хочаш сказаць, што і старасьць і далей пра яе. Праз паўгода, сказала я, сын будзе трымаць дзяржаўны экзамен на праўніка, – свой клопат – свой хлеб...

САМУК (парывіста) Чаму не прыдушыла яе?

ЯНІНА (хлопаючы па ягоным плячы) Даражоны, не партызанскія часы, каб прыдушваць.

САМУК Праўда, Яніна! Праўда! Даруй маю дурноту... (гладзіць галена). Ад праўды ампутаванае галена пачало жыць.

ЯНІНА Не хвалюйся. Я думаю сын не пакрыўдзіць цябе.

САМУК Уладзімер мой! (усхвалявана). Мой дарагі Ўладзімер!

ЯНІНА (больш пяшчотна) Не хвалюйся. Пачакай.

САМУК (паўшапотна; з позіркам увыш) Мой дарагі Ўладзімер!

ЯНІНА (пераканальна) ...я здаецца цэлае жыцьцё з табой жыву. Забудзьцеся на яе.

САМУК А мне жадаецца, каб ты была мне, як сястра, толькі... Я-ж адзін-адзінотны.

ЯНІНА А сын?

САМУК Яніна, не ўспамінай яго. Можа ўсё будзе добра... (перамагаючы ранейшы настрой). Я хачу плакаць, гэтак плакаць, калі ўбачыў усіх сваіх маладосьць у адным кругу месьцяцца.

САМУК Яніна, ня варта думаць пра гэта. Я толькі звычайна загаварыў пра мінулае. (больш смутна). Мы і яны, што памерлі, адны і тыя вярбоўшчыкі жыцьця. Вярбуем, вярбуем, а яно ведае вартасьць сваю: заверніцца ад цябе, і бывай – каціся ўніз. Усё што робіць прырода, або чалавек, ёсьць толькі творчая разбуральнасьць, быццам паказ магчымасьцяў. (нахіліўшыся да Яніны). Табе-ж пра гэта не гаварыць: ты – інжынер, а я ў чынах салдат быўшы.

ЯНІНА Навошта крыўдзіць сябе? Вось гэты інжынер таксама любіць сваю вёску, і шчасьлівы, вельмі шчасьлівы што мае працу ў сваім мястэчку. Тры кілёматры раніцай прайсьціся да працы – любасьць, вялікая любасьць. (устае). І пра што толькі не падумаю, ідучы той самай дарогай. Часта неякавата ў душы робіцца, калі на сьцежцы пазнаеш сьлед сваіх чаравікаў. Усё цела, на вокмецы, кастрабаватай вопраткай робіцца. (усьміхаецца, прахаджвае паміж калодкі і Самука)

САМУК За маім жыцьцём даглядалі іншыя людзі, таму ня ведаю як пабудаваць, я кажу пабудаваць, хоць крохкую дадумнасьць пра сваё жыцьцё. Жыцьцё ад Бога, значыць, не валодаеш ім, жыцьцё не ад Бога, значыць, яно бы... бы... нейкае абяцанне тады, бы раб якому можна сьмела сказаць: ты – раб!

ЯНІНА Але людзі баяцца людзей, толькі часам Бога.

САМУК (адхінуўшыся на сярэдзіну крэсла) Ты заўсёды собіш мяне на разважаньні, Яніна, не шкадуй мяне! (глядзіць ёй у вочы, яна стаіць перад ім). Не займай іншым, прашу... Няўжо думаеш: штосьці благое можа стацца з сынам?

ЯНІНА Даражоны, не мая справа данімаць табе. Але мушу сказаць: навошта даваў згоду пабачыць сына якраз у першы тыдзень канікул? Што, ня магла ўбачыць яго ў час вучобы ў Менску? Магла.

САМУК Ня хітры – я. Але я чэсны да свайго мінулага.

ЯНІНА (сьціпла, у вялікай пашане) Ты чалавек вялікай душы. (кладзе рукі на Самуковы плечы). Яна прыехала ўвечары, і спынілася ў мяне пераначаваць ноч. З ейных гутарак я адразу зразумела, што яна хоча зманіць сына, каб ён кінуў цябе і прыехаў жыць да яе і вотчыма ў Ленінградзе. Я адважалася сказаць ёй: ужо позна адумалася, ён вырас не пад тваёй апекай.

САМУК Яніна, і пад вашай таксама!

ЯНІНА Мой ўчынак вельмі сьціплы... Але вось родзічаў растрэляных. Хай-бы растрэлялі мяне. Я-ж змагаўся супраць іх.

ЯНІНА Не хвалюйся! Ты сказаў немцам сваё слова і зьдзейсьніў яго, мо не адзін памятае тваё сапраўднае: зуб за зуб, вока за вока.

САМУК Божа мой, як жахліва жыцьцё! І мая векавістасьць нікому не належыць. Я кінуты жыцьцём пажыць і адыйсьці...

ЯНІНА Навошта гаварыць пра гэта?

САМУК (устае з крэсла; бязуважна на Яніну) Але жыцьцё, якім жыву яшчэ, упрыгожыць не ўмею. Я толькі магу паказаць маё існаваньня сваёй працай, і змаганьнем за ўсё, што мне падабаецца.

ЯНІНА (захопна, цалуе яго) Ты паэтам зрабіўся! Сапраўды паэтам! (цалуе зноў)

САМУК (пераменна) А падумаць: дзеля чаго я твару трагэдыі? Пасьля вайны я жыву ў супакоі. Сын дарослы. Я думаю ён можа абараніць сябе. Чаго я кідаюся ў нейкую прорву – яна-ж уяўляная мной без патрэбы?

ЯНІНА Я пастаянна радуюся тваёй дасяжнасьцяй... Які даўцемны ты. (радасна). Пройдземся па садзе... (азіраецца; рып весьніцаў)

САМУК (таксама азіраецца). Я забыўся сказаць: журналісты раённай газэты прыйдзе.

ЯНІНА (пахопна) З гадаўшчынай, мой даражоны.

САМУК (урыўна) Не ўспамінай, Яня!
( з самавітай пагардай да сябе). Пад замёт, таварышы! Багнэтам у горла – пашкадуй кулю!.. Ужо 15 год з таго часу мінула, але мне яно ня мінае... Кажны год тая самая песьня: герой Самук! Самук – герой!

ЯНІНА Хай гэтая песьня адвечнай будзе!

САМУК (спакойна) Адвечнае забойства? Хоць крыху, асудку свайму мінуламу, хачу.

ЯНІНА Ня крыўдзі мяне... кахай мяне.

САМУК (сьцюдзёна) Навошта рахавацца гэтым: кахай?

ЯНІНА А вось сяньня я патрабую твайго каханьня, або, ну хоць-бы ўдзячнасьць за яго. (Самук прастае да ўваходу ў сад, за ім Яніна).

САМУК Трэба-ж спаткаць яго. А ў цябе, як у майго сына, не ўсе гузігі ў кашулі прышытыя, але ўмея шыць адны і тыя пытаньні: а чаму? а „почему" не кахаць?

ЯНІНА Ты-ж мусіў да журналістаў прызвычаіцца. (спыняецца) Пра мяне-ж, твайго паплечніка, пасьля году па вайне, забыліся, і ўцеха адна: па ранейшаму Марусяй Змагаркай клічуць...

*працяг у наступным нумары*

# „АЙЦЫ" БССР І ІХНЫ ЛЁС

А. КАЛУБОВІЧ

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Аднак, не зважаючы на ўсё гэта – на дасюлешнюю акцыю беларускіх нацыянал-камуністых, заняцьце Чырвонай арміяй новых тэрыторыяў БНР і спрычыненае гэтым незадаволеньне беларускага насельніцтва, – беларускае нацыянальнае пытаньне на савецкім баку фронту ўсё не вырашаецца, ні ў якай форме. Гэта выклікала падозраньні й недавер з боку Беларускіх сэкцыяў РКП(б) і Белнацкому да маскоўскага цэнтру. Падозраньні й недавер зь дня на дзень паглыбляюцца, пагражаючы канфліктам і разрывам.

19.11.1918 г. у газ. „Дзяньніца" зьяўляецца распачлівы, але, разам з тым, рашучы й выклікаючы артыкул пад вымоўным загалоўкам „Як-жа з Беларусьсю?" У ім у адрыс Народнага камісарыяту нацыянальных справаў РСФСР і кіраўніцтва Заходняй камуны робіцца адкрытыя папрокі, што ў іх дагэтуль няма аніводнага праекту дзяржаўнага ўладжаньня Беларусі. Артыкул патрабуе ад цэнтральных маскоўскіх уладаў „выразна паставіць пытаньне аб лёсе Беларусі"[52].

27.11.1918 г. склікаецца паседжаньне камітэту маскоўскай Беларускай сэкцыі РКП(б). На ім абмяркоўваецца паўсталая сытуацыя; для большае апэратыўнасьці выбіраецца бюро камітэту (З. Жылуновіч – старшыня, П. Клыш – заступнік старшыні, З. Чарнушэвіч – сакратар і Я. Дыла – скарбнік); прымаецца пастанова аб скліканьні зьезду ўсіх беларускіх сэкцыяў РКП(б) (для хутчэйшае падрыхтовы яго ў Петраград камандыруюцца З. Жылуновіч і А.Чарвякоў, у Саратаў, Тамбоў і іншыя месты Расеі – А. Дзедзя, у Беларусь – П. Клыш і В. Майзель); выбіраецца дэлегацыя ў складзе Я. Дылы, І. Няцецкага й З. Чарнушэвіча для перамоваў із Сталіным[53]

2.12.1918 г. на паседжаньні Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б) прымаецца пастанова аб скліканьні 27.12.1918 г. у Смаленску 6-ай абласной партыйнай канфэрэнцыі. У парадку дня канфэрэнцыі (апублікаваным у газ. „Звѣзда") пытаньня пра абвешчаньне БССР няма[54]. Калі дзень канфэрэнцыі пачаў набліжацца, А. Мясьнікоў высылае ў Маскву на імя сакратара ЦК РКП(б) і старшыні ЦВК РСФСР Я. Сьвярдлова тэлеграму: „Некоторые местные работники будируют вокруг вопроса о *так называемой Белоруссии*. Как передают, по этому поводу Вам из Минска была послана телеграмма. Изложенное в ней является частным мнением. Ставшая на очередь литовская проблема как будто бы может стать общей и для Запобласти. Ввиду того, что в некоторых кругах местных Советов и на областной партийной конференции вопрос этот может всплыть, просил бы сообщить, как обстоит дело с литовской властью, не объясняется ли ее появление исключительно политическими агитационными мотивами?.."[55]

Які адказ А. Мясьнікоў атрымаў ад Я. Сьвярдлова, мы ня ведаем, але ў газ. „Западная Коммуна" (орган Аблвыкамзаху) 21.12.1918 г. (г.зн. за 6 дзён перад адкрыцьцём 6-ай абласной партыйнай канфэрэнцыі) публікуецца рэдакцыйны артыкул „Национальные республики Советов". У вартыкуле даводзіцца патрэба захаваць вобласьці й немэтазгоднасьць тварыць нацыянальныя рэспублікі, якія, калі й твораццa, то вылучна дзеля *тактычных* меркаваньняў. „Спрашивается, зачем эта игра в советские республики?.. Ведь для нас ясно, что Советская власть ставит своей задачей... не создание национальной обособленности в рамках маленьких национальных государств, а снесение всяких национальных рогаток.. *Провозглашение Советской республики Белоруссии* не только не служило бы интересам борьбы с националистическими тенденциями мелкой буржуазии, но какраз развивало бы простор этим тенденциям. А это *не в интересе социалистической революции*. То, что мы признаем *допустимым* в одном месте в силу *тактических соображений, не должно быть перенесено в другие места*, где таковых практически соображений нет и быть не может"[56].

У той самы дзень, 21.12.1918 г., у Маскве адкрываецца канфэрэнцыя Беларускіх сэкцыяў РКП(б), на якую прыслалі сваіх дэлегатаў 6 сэкцыяў – Маскоўская, Петраградзкая, Саратаўская, Тамбоўская, Менская й Невельская. Канфэрэнцыя, якая працягвалася да 23.12.1918 г., выбірае ЦБ Беларускіх сэкцыяў РКП(б) – З. Жылуновіч, Ф. Балбека, А. Чарвякоў, І. Няцецкі, М. Драко-Дракан, Я. Дыла; пастанаўляе склікаць усебеларускі зьезд Беларускіх сэкцыяў РКП(б) у намеры заснаваць сваю асобную Беларускую Камуністычную Партыю (БКП) і самае галоўнае – ідучы за прыкладам толькі што праклямаваных Эстонскай (29.11.1918 г.), Летувіскай (16.12.1918 г.) і Латвійскай (17.12.1918 г.) ССР, *22.12.1918 г. прымае пастанову пра абвешчаньне БССР*. Пасьля канфэрэнцыі ЦБ Беларускіх сэкцыяў РКП(б) інфармуе Сталіна пра ейны прабег і прынятыя на ёй пастановы[57].

*23.12.1918 г.*, г.зн. на другі дзень па прыняцьці канфэрэнцыяй Беларускіх сэкцыяў РКП(б) пастановы пра абвешчаньне БССР, ЦВК РСФСР (за подпісам Я. Сьвярдлова) прымае пастанову пра „абласныя аб'яднаньні". Згодна з гэтай пастановаю, на хадайніцтва Паўночна-Заходняга абласнога камітэту РКП(б) і Аблвыкамзаху, падтрыманых Народным Камісарыятам нутраных спраў РСФСР, *Заходняя камуна як тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка РСФСР зацьвярджаецца й надалей вобласьцю* ў складзе Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай, Менскай і Гарадзенскай губэрняў (частка Віленскай і Ковенская губэрні ў сувязі із паўстаньнем Летувіскай ССР зь яе выключаюцца)[58].

Толькі 24.12.1918 г. у беларускім пытаньні прымаецца якаясь пастанова ЦК РКП(б). Дагэтуль яна не апублікаваная, і мы ня ведаем дзеля якіх мэтаў была прынятая. Пастанова ЦК прадухіліла канфлікт і разрыў паміж Беларускімі сэкцыямі РКП(б) і маскоўскім бальшавіцкім цэнтрам ды сталася паваротнай у справе зрэалізаваньня абвешчаньня БССР.

25.12.1918 г. Сталін запрасіў да сябе на нараду кіраўнікоў Белнацкому й прапанаваў ім вылучыць кандыдатаў ува ўрад БССР і на старшыню ўраду. У Белнацкоме зараз-жа склікаецца надзвычайнае паседжаньне супрацоўнікаў Белнацкому, ЦБ Беларускіх сэкцыяў РКП(б) і камітэту маскоўскай сэкцыі[59]. У тым-жа дні Сталін выклікае „к аппарату для разговора по очень важному вопросу" А. Мясьнікова й паведамляе яму, што „*ЦК партии* по многим соображениям, о которых теперь говорить не приходится, *согласился с белорусскими товарищами на образование Белорусского советского правительства*[60]... Очевидно, придется на несколько дней отложить вашу областную конференцию. Все это абсолютно необходимо для того, чтобы в будущем избежать возможных недоразумений. Говорю все это по поручению ЦК партии"[61]. Сказанае ён паясьніў, што ў сутнасьці „Необходимо произвести *только некоторые изменения конструкции Облискомзапа*"[62]. Таму для выразьненьня „вопросов, имеющих громадное практическое значение", А. Мясьнікову прапанавана неадкладна выехаць у Маскву[63].

27.12.1918 г. Сталін тэлеграфаваў у Менск прадстаўніку СНК РСФСР: „Сегодня я договорился с Мясниковым и Калмановичем. С белорусами тоже. Вопрос не вызовет на конференции никаких трений, ибо *конференция будет иметь дело с решением ЦК партии*... Все вопросы *перестройки Облискомзапа уже решены*"[64].

6-ая Паўночна-Заходняя абласная канфэрэнцыя РКП(б), на каторую Беларускія сэкцыі РКП(б) дэлегавалі З. Жылуновіча, Я. Лагуна, П. Клыша й В. Ханіна[65], была перанесеная з 27 на 30-ае сьнежаня. Парадак дня канфэрэнцыі застаўся той самы, што быў прыняты 2.12.1918 г.

*Асобнага пытаньня пра абвешчаньне БССР на парадку дня ня было.* Адно, на дырэктыву ЦК РКП(б), у даклад А. Мясьнікова па пытаньню „Бягучы момант" уставілены пункт „Беларуская Савецкая рэспубліка"[66]. 30.12.1918 г. *канфэрэнцыя прымае агульную рэзалюцыю пра абвешчаньне БССР* (дакладней: ССРБ – Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі) із цэнтрам у Менску. На прапазыцыю адумыслоная камісіі, выбранай канфэрэнцыяй, прымаецца асобная пастанова ў справе тэрыторыі БССР, куды ўлучаюцца Менская, Магілёўская й Гарадзенская губэрні цалкам, Віцебская бяз частак Дзьвінскага, Рэжыцкага й Люцынскага паветаў, Смаленская бяз Гжацкага, Сычаўскага, Вяземскага й Юхнаўскага паветаў, а таксама Вялейскі й часткі Ашмянскага й Сьвяцянскага паветаў Віленскай губ., частка Нова-Аляксандраўскага пав. Ковенскай губ., Аўгустоўскі пав. Сувалкаўскай губ., Сураскі, Мглінскі, Старадубскі й Навазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губ.[67]

Канфэрэнцыя „дала отпор" прадстаўнікам Беларускіх сэкцыяў РКП(б), „пробававшим протянуть постановление о создании *независимой* компартии Белоруссии"[68]. 31.12.1918 г. яна пастанавілаператварыць Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РКП(б) у Камуністычную партыю (бальшавікоў) Беларусі (КП(б)Б), але як „*составную* и *неотъемлемую* часть РКП(б)", якая "и впредь всецело будет руководствоваться директивами ЦК РКП(б), считая его своим высшим партийным органом"[69].

Наўсуперак прадбачаньням Сталіна, пастановы Смаленскай канфэрэнцыі (яна пераназвалася ў 1-шы зьезд КП(б)Б) ня ўсунулі ўсіх супярэчнасьцяў і ня спынілі далейшага змаганьня паміж Беларускімі сэкцыямі РКП(б), з аднаго боку, і ЦБ КП(б)Б і ЦК РКП(б), з другога.

Змаганьне разгараецца на самой канфэрэнцыі, асабліва ў часе выбараў ЦБ КП(б)Б, а яшчэ болей як толькі канфэрэнцыя закончылася, і ЦБ КП(б)Б, разам із прадстаўнікамі ЦБ Беларускіх сэкцыяў РКП(б), прыступілі да фармаваньня Ураду БССР на аснове г.зв. *„Умоваў утварэньня БССР", выстаўленых 27.12.1918 г. ад ЦК РКП(б)* і *СНК РСФСР*[70]. Не зважаючы на тое, што „Умовы" гэтыя й так робяць Урад БССР не самастойным (п.6 „Умоваў" пакідае бяз зьменаў правы ЦБ партыі й наркаматаў ураду такім-ж, як былі правы Абласнога камітэту партыі й аддзелаў Аблвыкамзаху – г.зн. поўнасьцю ўзалежняе цэлы ўрад і кожны ягоны наркамат ад ЦБ КП(б)Б, а праз яго й ад ЦК РКП(б), – у Смаленску „Умовы" парушаюцца на яшчэ большую некарысьць ураду. Найперш старшыня ўраду З. Жылуновіч ня выбраны адначасна старшынёю ЦБ КП(б)Б, як таго патрабуе п.5 „Умоваў" (ім стаўся А. Мясьнікоў). На аснове п.1 „Умоваў", З. Жылуновіч дамагаецца для Беларускіх сэкцыяў РКП(б) 10 месцаў ува ўрадзе із усіх 16, а яму даюць 7 із 17 (10 месцаў аддаецца групе Заходняй камуны):

ад Беларускіх сэкцыяў РКП(б) –
1) З. Жылуновіч – старшыня ўраду,
2) У. Фальскі – нарком замежных спраў,
3) А. Чарвякоў – нарком асьветы,
4) З. Чарнушэвіч – нарком сацыяльнага забясьпечаньня,
5) Я. Дыла – нарком працы,
6) А. Квачанюк – нарком юстыцыі,
7) І. Пузыроў – нарком аховы здароўя;

ад групы Заходняй камуны –
8) А. Мясьнікоў – нарком вайсковых справаў,
9) Р. Пікель – нарком саўнаргасу,
10) І. Рэйнгольд – нарком фінансаў,
11) М. Калмановіч – нарком харчаваньня,
12) А. Андрэяў – нарком земляробства,
13) С. Іваноў – нарком нутраных справаў,
14) К. Розэнталь – нарком пошты й тэлеграфу,
15) І. Савіцкі – нарком шляхоў зносінаў,
16) С. Бэрсан – нарком дзяржаўнага кантролю,
17) Ф. Шантыр – нарком нацыянальных справаў (ён – беларускі нацыянал-камуністы, які стаяў на пазіцыях Беларускіх сэкцыяў РКП(б)[71].

(7.1.1918 г. ува ўрад уводзяцца яшчэ 2 асобы ад групы Заходняй камуны –
18) Г. Найдзёнкаў – старшыня Калегіі ў справах палонных і ўцекачоў і
19) В. Яркін – старшыня ЧК[72].)

Такім чынам, Урад БССР камплектуецца із 7 (з Ф. Шантырам – із 8) прадстаўнікоў ад Беларускіх сэкцыяў РКП(б) – *ініцыятараў абвешчаньня БССР*, і 12(11) ад групы Заходняй камуны – фактычна *праціўнікаў БССР*. У сувязі з гэтым група З. Жылуновіча ставіць пытаньне пра зьліцьцё ЦБ КП(б)Б і ЦБ Беларускіх сэкцыяў РКП(б) у вадзін партыйны цэнтар на парытэтных пачатках[73], бо ў ЦБ КП(б)Б ад Беларускіх сэкцыяў РКП(б) на канфэрэнцыі было выбрана ўсяго 2 прадстаўнікоў (З. Жылуновіч і Я. Лагун[74]) на ўсіх 15 сяброў, прычым, і ў самім урадзе на аднаго З. Жылуновіча ад праціўнага боку іх 6[75]. Калі-ж не магла дамагчыся й гэтага, З. Жылу-

новіч заявіў, што ён ня будзе падпарадкавацца ЦБ КП(б)Б[76].

Каб разьвязаць канфлікт, у той-жа дзень, 1.1.1919 г., А. Мясьнікоў тэлеграфуе ў Маскву із скаргаю на супраціў З. Жылуновіча й ягонае групы, зазначаючы, што З. Жылуновіч не згаджаецца ўключыць у склад ураду яго (Мясьнікова), Калмановіча й Пікеля ды адмаўляецца публікаваць маніфэст ураду пра абвешчаньне БССР[77]. Адказ із Масквы рашуча падтрымаў групу Заходняй камуны: "Предложение Жилуновича о невключении трех членов нахожу дезорганизаторским и Никаких особых решений группы Жилуновича не может быть. Список членов, всего 17, является окончательным. Я требую от Жилуновича, его группы категорического ответа на вопрос, подчиняется ли он беспрекословно решению ЦК партии. Жду срочного ответа. По поручению ЦК партии. Сталин"[78].

З. Жылуновіч падпарадкаваўся. Маніфэст із спазьненьнем быў падпісаны (у пасьпеху толькі 5 сябрамі ўраду із 17 – Жылуновічам, Мясьніковым, Івановым, Чарвяковым і Рэйнгольдам), уначы з 1-га на 2-ое студзеня 1919 г. апублікаваны[79]. 2.1.1919 г. на пленуме Аблвыкамзаху была прынятая пастанова пра ліквідацыю Заходняй камуны.

5.1.1919 г. Урад БССР пераехаў із Смаленску ў Менск.

Так, *бяз удзелу самога беларускага народу*, на абласной партыйнай канфэрэнцыі, *паводля дырэктывы ЦК РКП(б) з Масквы* й нат "несмотря на полное несочувствие делегатов"[80] гэтай канфэрэнцыі, *была праклямаваная БССР.*

*(Працяг будзе)*

---

[52]) В. Круталевіч. Абвяшчэнне рэспублікі – Полымя, 1968 г., №9, б.178.
[53]) Жылуновіч, бб.81–82.
[54]) Круталевіч, там-жа, б.174.
[55]) Там-жа, бб.178–179.
[56]) Там-жа, б.179.
[57]) Турук, б.44; Жылуновіч, бб.85–92; Круталевіч, там-жа, бб.180–181.
[58]) Круталевіч, там-жа, бб.173–175.
[59]) Там-жа, бб.181–182, 188.
[60]) Там-жа, б.180.
[61]) Там-жа, б.181.
[62]) Там-жа, б.197.
[63]) Там-жа, б.181.
[64]) Там-жа, б.182.
[65]) БелСЭ, т.2, б.260.
[66]) Круталевіч, там-жа, б.183.
[67]) Документы по истории советско-польских отношений, т.2, Москва, 1964 г., б.446.
[68]) Оброзование СССР. Сборник документов, 1917–1924, Москва-Ленинград, 1949, б.454.
[69]) Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии, Институт истории при ЦК КПБ, ч.1, Минск, 1961, б.348.
[70]) Ф. Новікава. Перамога савецкай улады на Беларусі і ўтварэньне БССР – час. „Камуніст Беларусі", Мінск, 1958 г., №4, бб.36–37.
[71]) Турук, б.45; БелСЭ, т.11, 1974 г., б.208.
[72]) БелСЭ, там-жа.
[73]) Круталевіч, там-жа, б.189; Круталевіч. На імя Леніна, б.103; Очерки..., б.350.
[74]) БелСЭ, т.2, б.260.
[75]) Мясьнікоў, Пікель, Рэйнгольд, Іваноў, Калмановіч, Андрэяў (а ад 7.1.1919 г. – яшчэ Найдзёнкаў і Яркін) – БелСЭ, т.11, б.145.
[76]) Круталевіч. Абвяшчэнне рэспублікі, б.189.
[77]) Там-жа; Круталевіч. На імя Леніна, б.103.
[78]) Круталевіч. Абвяшчэнне рэспублікі, бб.189-190.
[79]) Там-жа, б.190.
[80]) Тая-ж тэлеграма А. Мясьнікова ў Маскву ад 1.1.1919 г. (Там-жа, б.184).

# Трыццацілецьце Беларускай Эміграцыі ў З.Ш.А.

Сёньня прыпадаюць трыццатыя ўгодкі жыцьця беларускай палітычнай эміграцыі ў ЗША.

Мэтаю майго кароткага артыкулу – адзначыць трыццацілецьце жыцьця й працы беларускай эміграцыі на тэрыторыі ЗША, выказаць хоць важнейшыя нашыя асягненьні й недахопы арганізацыйна-грамадзкага й палітычнага жыцьця й нарэшце, падаць найбольш рацыянальны, на думку аўтара, праект працы на будучыню.

### Нашыя асягненьні

Трыццацілетні пэрыяд жыцьця беларускай эміграцыі на чужыне, а сяньня ўжо амэрыканцаў беларускага паходжаньня, мае сваю багатую й цікавую гісторыю.

У адрозьненьне ад папярэдніх беларускіх эміграцыяў да ЗША аж да першай сусьветнай вайны 1914-га г., эміграцыя 1948-га г., маючая ў сваіх шэрагах вялікую колькасьць уласнай інтэлігэнцыі й нацыянальнасьведамае беларускае сялянства не пашла па сьлядох старое „заробкавае" эміграцыі, не ўключылася ні да расейскіх ні да польскіх арганізацыяў, а, наадварот, стварыла ўласныя свае рэлігійныя, грамадзка-гаспадарчыя й навуковыя цэнтры. Новая эміграцыя прывезла з сабою новыя вызваленьчыя ідэі супраць несвабоды, якою абдарыла ўвесь беларускі народ маскоўская камуністычная дыктатура.

Калі раней беларуская праблематыка на тэрыторыі ЗША блізу не існавала, то пазьней, дзякуючы безпасьрэднім кантактам беларусаў з амэрыканскім народам, дзякуючы нашай прэсе, асабліва англа-моўнай, дзякуючы працы нашых навукоўцаў – гэтая праблема зьмянілася на лепшае.

Ладжаньня Нацыянальных Сьвятаў 25-га Сакавіка, а з гэтай нагоды чытаньне малітваў у Кангрэсе ЗША, прывітаньняў і прамоваў сэнатараў і кангрэсмэнаў ёсьць вельмі паважным інфармацыйным сьродкам аб Беларусі.

### Крызыс Беларускай Нацыянальнай Думкі

Пасьля даўжэйшага пэрыяду інтэнсыўнай грамадзка-палітычнай і культурнай працы, беларуская эміграцыя паступова пачынае губляць веру ў свае сілы й свае вартасьці. Многія ня годзяцца з дэмакратычнымі прынцыпамі, якія былі найлепшымі падвалінамі працы арганізацыі й жыцьця грамадзка-сацыяльных асацыяцыяў, але з свайго боку ня маюць нічога каб замяніць іх лепшымі ідэямі. Адыход, ізаляцыя й абыякавасьць вялікай часткі нашай інтэлігэнцыі ад грамадзкай працы зрабіла нэгатыўны ўплыў на ўсю нашую эміграцыю.

Усюды чуліся горкія словы праўды: „А дзе дзелася нашая інтэлігэнцыя, чаму яна нічога ня робіць?" Усе нашыя асягненьня гэта – праца толькі малое часткі нашае інтэлігэнцыі й блізу ўсіх сьведамых патрыётаў – эмігрантаў.

Мы ня можам і ня хочам цьвердзіць, што ўсё благое й шкоднае ёсьць добрым. Наадварот, мы павінны з самага пачатку сьмела сказаць, што ёсьць добрым і карысным, а што ёсьць благім. Толькі на грунце здаровай, умяркаванай крытыкі будуецца людзкі прагрэс. Гаворыцца: навука й разумная крытыка – адно.

Дзякуючы іррацыянальнай (у значэньні – шкоднай) працы нашых некаторых лідэраў, мы сяньня перажываем глыбокі арганізацыйна-грамадзкі крызыс, крызыс беларускай грамадзкай думкі. Ёсьць дзьве формы грамадзкага жыцьця: натуральная або арганічная й крытычная форма. Калі натуральная форма, пабудаваная на дэмакратычна-грамадзкіх асновах і дае найлепшыя для выкарыстаньня натуральна-творчыя сілы, то крытычная форма будуецца на антыдэмакратычных сілах, прагрэс грамадзкай працы стрымліваецца, а сябры арганізацыі ёсьць толькі англомерацыяй паасобных сяброў, адзінак.

### Адзінства ў Рознасьці

На першы пагляд „адзінства" і „рознасьць" гэта – два супярэчныя разуменьня. Бязумоўна, інтэрпрэтацыя „адзінства ў рознасьці" мае метафізычнае значэньне. У запраўднасьці, пры глыбейшым аналізе гэтых словаў яны й ня ёсьць абстракцыяй, а таму між імі ёсьць і пэўная рэальная сувязь, а менавіта: сацыялёгічная й палітычная. У палітыцы, таксама слова „рознасьць" ня ёсьць абстракцыяй;

*працяг на 4-й бачыны*

# Дзесяцілецьце Хіратоніі Беларускіх Япіскапаў



*Мітрапаліт Андрэй*



*Архіяпіскап Мікалай*

Сёлета Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўрачыста абходзіць дзесяцігодзьдзе хіратоніі Мітрапаліта Андрэя й Архіяпіскапа Мікалая.

Хіратонія Уладыкі Андрэя адбылася 15-га лютага 1968-га году, а Уладыкі Мікалая 10-га сакавіка 1968-га году

У сувязі з тым, што Галава БАПЦ, Уладыка Сяргей, пражываў у Аўстраліі, хіратонія Архімандрыда М. Крыта й Архімандрыда М. Мацукевіча на Япіскапаў адбылася ў Аўстраліі.

На другім Саборы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, які адбыўся 27–29-га травеня 1972-га г. ў Царкве Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк, Ню Дж., З.Ш.А., Уладыка Архіяпіскап Андрэй быў выбраны й пастаўлены Мітрапалітам БАПЦ.

Згодна паведамленьня Кансысторыі БАПЦ ў нумары 49-м свайго часапісу за красавік 1978 г.: *ГОЛАС ЦАРКВЫ* Мэмарыялам з 3-га кастрычніка 1972-га г. аб пастаўленьні Мітрапаліта БАПЦ было даведзена да ведама Ўсяленскага Канстанцінопальскага Патрыярха Дымітрыеса.

Паміж Патрыярхіяй і Першаерархамі Праваслаўных Цэркваў і Мітраполіяй Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы была наладжана духовая й інфармацыйная лучнасьць.

---

### Вечарына ў Грэкаў

2-га чырвеня 1978 г. Грэцкі Рэспубліканскі Клюб у Ню Ерке ладзіў вечарыну й „коктэйл" у Мангатане з мэтай фінансавай і іншай дапамогі кандыдатам у кангрэс і сэнат, каторыя спрыяюць нацыянальным групам у Ню Ерку.

Былі запрошаныя й прысутнічалі: кангрэсмэн Рычард Грін з Ню Ерку, судзьдзя вышэйшага суду ў Мангатане, старшыні іншых рэспубліканскіх клюбаў у Ню Ерку, уключаючы Др. Р. Гарошка ад Беларусаў, Спня. Душнык ад Украінцаў, Сп. Гонг ад Кітайцаў, прадстаўнікі ад Японцаў і іншыя.

# Вясельле ў Манчэстары



*Царкоўны шлюб Сп. Джэфа Рагеля з Доннай Марыяй Нэвін.*

У нядзелю, 29-га студзеня сёлета, у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары, адбыўся абрад шлюбу Сп. Джэфа Рагеля з Доннай Марыяй Нэвін.

Абрад шлюбу выканаў Прт. а. Янка Абабурка, Настаяцель БАПЦ ў Англіі. А гадзіне 10:30 раніцы, у Царкве Жыровіцкае Божае Маці, адбылася сьв. Літургія, па заканчэньні Якое й кароткага перапынку, быў выканаваны шлюб паводля абраду Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Паколькі БАПЦ у Англіі ёсьць залегалізаваная, й праўным Рэістратарам зьяўляецца Прт. а. Янка Абабурка, шлюб выконваўся ў дзьвёх мовах: беларускай і ангельскай, паводля вымаганага права.

У Царкве прысутнічала вялікая колькасьць гасьцей ангельцаў, сяброў і сяброваk маладое пары, а таксама былых сяброў бацькі маладога, сьв. пам. Сяргея. Тут трэба зазначыць і ўспомніць, што пакойны Сяргей Рагель, за свайго жыцьця, прылажыў вельмі шмат працы, будуючы Царкву Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары, і быў шчырым вернікам БАПЦ. Гэта-ж і сьведчыць, што сын ягоны Джэф, ня забыўся бацькавых перакананьняў, належаць і прытрымоўвацца культу сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

У царкоўнай залі адбылося прыгожае прыняцьцё, на якім, таксама, прысутнічала вялікая колькасьць сяброў і сяброваk маладое пары, запрошаных гасьцей з Манчэстару и Брадфорду.

Уступныя й прывітальныя словы для маладое пары сьпярша сказала маці маладога, Альжбета, а пазьней на просьбу свата й хроснага бацькі Джэфа, Сп. Аўген Варэнік папрасіў Сп. Янку Калбасу, сакратара Рады БАПЦ, каб паясьніў прысутным ангельцам традыцыі беларускага вясельля. Пазьней, пры гутарцы з ангельскімі гасьцьмі, было вельмі міла пачуць прыгожыя заўвагі да нашага беларускага звычаю, а тыя, што бачылі царкоўны шлюб у пяршыню, былі зачараваныя прыгожасьцю й багацьцем нашых царкоўных традыцыяў, а таксама мілымі мэлёдыямі царкоўных напеваў. Тут, трэба пажадаць маладой пары – Джэфу й Доньне Марыі Рагель, шчасьлівага й радаснага жыцьця, удачаў у працы, ды прадаўжаць хрысьціянскае жыцьцё, шануючы сваіх бацькоў і веру праваслаўную.

– *Янка Крушына*

# Генерал ФРАНЦІШАК КУШАЛЬ



*– Партрэт Мастака Пётры Міранавіча*

З нагоды 10-ці лецьця ад сьмерці Генерала Францішка Кушаля, выдатнага Змагара за свабоду свайго Нарду, сёлета 3-га чырвеня, была адслужана Біскупам Чэславам Сіповічам Божая Служба й Паніхіда ў Каталіцкай Царкве ў Джамэйцы.

Па аоедзе, ў памешчаньні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, адбылася памінальная акадэмія, прысьвечаная вайсковай і навуковай працы Генерала Кушаля.

Галоўным дакладчыкам на акадэміі быў Др. Генерал Юзік Сажыц.

– *Вэтэран*

# Нашыя Заданьні

Нашымі заданьнямі ё заданьні Народу нашага. Яны вынікаюць із стану, у якім ё Народ наш. Бацькаўшчына наша паняволена й падзелена. Палавіна яе пад назовам „Радзкае Соцыялістычнае Рэспублікі Беларускае" („Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі" – БССР) ё найжусьнейшаю калёнію расійскаю, якой сьвет дагэтуль ня бачыў. Другое палавіны вялізарная бальшыня прылучана беспасярэдне да Маскоўшчыны, а меншымі часьцьмі яе падаравала Масква нашых суседзяў. Расійцы русыфікуюць народ наш і мову ягоную, заразам вывозяць з нашае Бацькаўшчыны Вялікаліцьвіноў (Беларусаў) і прывозяць да яе Расійцаў. Праз гэта мы ніколі, ня маем забывацца.

Затым нам канечне патрэбна праграма супрацьдзеяньня душэўнаму паняволеньню й русыфікацыі нашых людзёў на землях вялікалітоўскіх СССР, так і жмудзізацы, полёнізацы й украінізацы прылучаных да Жмудзі, Польшчы, Украіны, а таксама супрацьдзеяньне асыміляцы маладога пакаленьня нашае эміграцы.

Другое, сумленныя й прозорлівыя людзі вольнага й нявольнага сьвету падняліся, першае, запыніць пашырэньне камунізму, а, другое, вызваліць паняволеныя ёю народы. Мы маем быць дзейнымі сябрамі іхнымі.

Трэйцяе, нельга нам абысьціся без рупатлівае ўвагі да дачыненьняў нашых суседзяў да нас, ня толькі затым, што ў бальшыні іх ё часьці народу нашага, але й затым, што супольна дзеіць спарней, чымся паасобку.

Да менаваных спраў уходзе й заданьне аднавіць спульнае пашырэньне нацанальнага назову нашага „Літва" ў хорме „Вялікалітва", „Вялікаліцьвіны", што прычыніцца да супоўнага нацанальнага ўсьведамленьня нашых мас, як спабыцьцё яго (маскоўскаю забаронаю) было прычыніўшыся да згубы нацанальнага сьведам'я ў нашым народзе.

Мы зычылі-б мець у „Часе" гаспадарскі аддзел, каб захочаваць нашых людзёў да рамества й гандлю. Да гэтага яны маюць здольнасьць.

– *Др. Янка Станкевіч*

# „Як я знайшоў Бога"

З апавяданьня амэрыканскага ваеннага лётчыка.

Пераглядаючы, нядаўна, сьвежыя амэрыканскія газэты, я наткнуўся на адзін нязвычайны артыкул, які выклікаў ·маё зацікаўленьне сваім вынятковым зьместам. У наш сумны час , калі ў гэтак званым „вольным сьвеце", дзе людзі бяз страху прасьледу могуць вызнаваць сваю рэлігію, і, не баючыся наведваць Божыя Храмы, заўважваецца вялікае паслабленьне веры й вялікі расьцьвет розных ізуверскіх сэктаў, да сатаністаў уключна, дык такое апавяданьне прачытаеш ня часта. А дзеля гэтага, ніжэй, я прыводжу скарочаныя вытрымкі з гэтай нязвычайнай гісторыі.

Ваенны лётчык старшы лейтэнант Робэрт Робесон, знаходзячыся на месцы ваенных дзеяньняў у Ветнаме, быў прызначаны да эскадрылі верталётаў на эвакуацыі раненых і забітых салдатаў з поля бітвы. 13га верасьня 1969 году ён атрымаў небясьпечнае заданьне, ляцець на перадавую лінію, дзе, прыціснутая агнём праціўніка, залегла амэрыканская стралецкая лінія, і падабраць раненых. „У часе лёту я, адразу прадчуваў, што ў маім жыцьці павінна здарыцца нешта вельмі важнае", успамінаў старшы лейтэнант Робесон, „і я пачаў маліцца, чаго раней ніколі не рабіў". Праз 20 мінут памочнік пілёта Джон Балл павярнуў верталёт на места пасадкі й адразу выклікаў на сябе сільны агонь чырвоных. Але, амэрыканцам удалося шчасьліва прызяміцца, і, забраўшы раненых, верталёт пачаў шыбка падымацца ўверх. Як толькі ён аддзяліўся ад вяршкоў дрэў, перакрэсны агонь узнавіўся з новай сілай. „Пулі стукаліся па броні верталёта й ствараласяя несамавітае ўражаньне, што мы знаходзімся ў мэталічнай бочцы, якую нехта з вонку б'е з усіх сіл цяжкім молатам". Адна пуля трафіла ў мотар і ён пачаў задыхацца. Наступны ўдар пашкодзіў сыстэму кіраваньня й выбіў з рук Балла кантрольную ручку. „Верталёт пачаў стрымглаў падаць уніз, і, здавалася, нам ужо няма ратунку! У гэты момант я зразумеў, што толькі ўсёмагутны Бог можа выбавіць нас, і пачаў горача маліцца, паўтараючы толькі тры словы: „Госпадзі спасі нас!!!" І сталася цуда: мне ўдалося выраўняць верталёт у двух-трох футах ад вяршкоў дрэў. І ня гледзячы на тое, што шчыт кіраваньня пакрыўся чырвонымі сыгналамі небясьпекі, апанаваў мяне поўны супакой. Мне здавалася, што голас з вышыняў гаворыць мне: „Ня бойся, ты астанешся жывым і непашкоджаным!".

Як толькі верталёт прызяміўся, уся зьмена мэханікаў аэрадрома кінулася яго аглядаць, і ўсе астаўбянелі ад зьдзейсьненага цуду: у баках верталёта ня было ні каплі гаручага, ані алівы; сыстэма кіраваньня распалася на часткі, калі толькі мяханік палажыў руку на ручку кіраваньня, і пяцьцю пулямі матор быў прыведзяны ў поўную нягоднасьць.

Пасьля свайго цудоўнага выбаўленьня ваенны лётчык Робесон, па свайму уласнаму прызнаньню, не старяўся аб пераводзе ў тыл, на бясьпечнае месца, а выканаў каля тысячы небясьпечных баявых палётаў, у часе якіх ён выратаваў 2553 раненых жаўнераў. „Пасьля майго цудоўнага выбаўленьня 13 верасьня, мужнасьць ніколі не пакідала мяне, і я не адчуваў страху нават у самыя небясьпечныя мінуты, так як я ведаў, што Госпад быў заўсёды са мною", так закончыў сваё апавяданьне, ужо атрымаўшы чын капітана, ваенны лётчык Робэрт Робесон.

– *Пав. Пагнуцці*